Падпісацца на «Народную Волю» можна ў любы дзень у любым паштовым аддзяленні ці ў спецыялізаваных пунктах «Белсаюздруку».

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо.*
*Якуб КОЛАС*

**№ 23 (4481)**

20 сакавіка 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.



# Народная Воля



З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Васіль ЗАВАДСКІ: «Людзі найперш самі павінны пра сябе паклапаціцца»

*Былы начальнік медыцынскай службы Дэпартамента выканання пакаранняў распавёў «Народнай Волі» пра тое, як сам засцерагаецца ад каранавіруса, і дае парады ўсім астатнім.*

– Сітуацыя, безумоўна, склалася неардынарная, – *кажа Васіль Іванавіч*. – З аднаго боку, я бачу элементы панікі і перабольшвання, але разам з тым і змяншаць небяспеку не трэба, бо ўсё дастаткова сур’ёзна.

Гэта бачна хаця б па тым, колькі чалавек ужо загінула ў свеце. Ні для кога не сакрэт, што свет зведваў і значна большыя эпідэміі, але жыццё кожнага грамадзяніна – каштоўнасць, і за яго трэба змагацца. І гэта нагода для таго, каб уважліва ставіцца да праблемы.

**– Што вы, як медык, параілі б людзям у такой сітуацыі?**

– Калі ўлады не ўводзяць каранцін, то, мяркую, недзяржаўныя арганізацыі могуць паклапаціцца пра сваіх работнікаў і максімальна перавесці іх на дыстанцыйную працу.

Людзям трэба як можна менш бываць у грамадскім транспарце і ў гандлёвых цэнтрах. Калі ж з’яўляецца неабходнасць наведвання такіх месцаў, то ўсё ж параіў бы выкарыстоўваць маскі. Напрыклад, пакупніка ў краме такая маска здольна абараніць.

Акрамя таго, не трэба забывацца пра элементарныя сродкі гігіены – пастаяннае мыццё рук з мылам ці апрацоўка антысептыкам. Не трымацца побач з людзьмі, якія кашляюць і чыхаюць. Пра гэта трэба памятаць пастаянна!

**– Аляксандр Лукашэнка параіў хадзіць у сухую саўну, а таксама жартам дадаў, што кожны дзень добра было б прымаць па 50 грамаў гарэлкі для дэзінфекцыі…**

– Лазня альбо саўна – гэта, безумоўна, добра, але няўжо простыя людзі могуць дазволіць сабе наведваць саўну хаця б некалькі разоў на тыдзень? Для чыноўнікаў, відаць, усё гэта даступна, але ж трэба, як кажуць, спусціцца з нябёс на грэшную зямлю.

А што тычыцца гарэлкі, то гэта і на самай справе можна ўспрымаць толькі як жарт. Гарэлка – не сродак у барацьбе з каранавірусам. Хіба што, калі нап’ешся, пра ўсе праблемы забудзешся.

**– Чым можна зараз умацаваць імунітэт?**

– Па-першае, харчаванне павінна быць збалансаваным і здаровым. Я параіў бы, акрамя ўсяго іншага, мёд і прарошчанае зерне. Таксама не будуць залішнімі полівітаміны, калі прымаць іх у разумных дозах.

І яшчэ варта не забывацца пастаянна праветрываць памяшканні. Скразнякі вельмі хутка і эфектыўна забіваюць узбуджальнікаў хваробы. І самому трэба абавязкова выбірацца на свежае паветра, але гуляць там, дзе няма людзей.

Калі ж давядзецца ехаць у грамадскім транспарце, то выкарыстоўвайце маску. І нават пальчаткі не пашкодзяць.

**Алесь СІВЫ.**

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

## При нетяжелом течении заболевания коронавирусом организм справляется сам



*Об этом в интервью газете «Медицинский вестник» сообщил главный внештатный инфекционист Минздрава, заведующий кафедрой инфекционных болезней БГМУ профессор Игорь Карпов.*

По словам Игоря Карпова, «*при бессимптомном и нетяжелом течении заболевания коронавирусом организм справляется с инфекцией сам за счет формирования специфического иммунитета*».

Если при гриппе заболевание начинается с заложенности носа или насморка, головной боли, то у подхватившего коронавирус первым делом повышается температура, появляется кашель. «*Здесь же преобладают явления общего характера: слабость, разбитость, боли в мышцах, но характерным считается раннее присоединение кашля на фоне относительно более редких проявлений со стороны верхних дыхательных путей. Судя по многочисленным зарубежным публикациям, значительных отличий в клинической картине в разных странах нет*», – отметил Игорь Карпов.

Он перечислил факторы риска тяжелого течения заболевания: возраст старше 60 лет, серьезные сопутствующие патологии (ишемическая болезнь сердца, артериальная гипертензия, сахарный диабет, хроническая обструктивная болезнь легких, онкология). Дети, пояснил Игорь Карпов, болеют коронавирусной инфекцией не реже, но легче. «*Вполне вероятно, что это связано с нюансами формирования респираторной системы. Такие возрастные особенности существуют и для других клеток детского организма, например, в сосудистом эндотелии*», – цитирует доктора belta.by.

Медик напомнил о самых действенных мерах профилактики. «*Они заключаются в ограничении ненужных передвижений, контактов, бережном отношении к старшему поколению*, – сказал главный внештатный инфекционист Минздрава. – *Очень важно часто мыть руки*».

ДОСЛОВНО



## «Мы можем больше пострадать от паники, нежели от самого вируса»

*Александр Лукашенко вчера на специальном совещании по эпидемиологической ситуации рассказал о том, что его больше всего волнует в ситуации с коронавирусом:*

«Абсолютно убежден, что это очередной такой же психоз, который кому-то будет на руку, а кому-то и во вред. Но мы живем в конкретной ситуации и, естественно, должны исходить из той обстановки, которая складывается не только у нас, но и за пределами нашей страны. Я абсолютно убежден, что мы можем больше пострадать от паники, нежели от самого вируса. Вот это меня больше всего волнует».

БЛІЦ

*У гэтым годзе адзначаецца 75-годдзе Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. На 9 Мая запланаваны ваенны парад у Маскве. А што будзе ў нас? Нягледзячы на ўспышку каранавіруса і надзвычай складанае эканамічнае становішча, адмяняць яго ў Беларусі пакуль, здаецца, не плануюць, хаця, напрыклад, у Казахстане гэта мерапрыемства ўжо адменена.*

*«Народная Воля» звярнулася да самых розных людзей з пытаннем:*

## ЦІ МЭТАЗГОДНА СЁЛЕТА ПРАВОДЗІЦЬ ВАЕННЫ ПАРАД?

**Віктар КАЗЬКО, пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа:**

– Нам наогул не патрэбны гэтыя гульні ў вайну невядома каго і невядома з кім. Лепш бы тыя грошы, што патрацяць на парад, аддалі апошнім ветэранам Вялікай Айчыннай вайны, пакуль яны яшчэ не вымерлі, тым удовам, дзецям, якія не дачакаліся з франтоў сваіх блізкіх.

Навошта гэтыя парады ў XXI стагоддзі?! Даўно час спыніцца! І не толькі з-за каранавіруса. Спачатку дайце людзям нармальнае жыццё, забяспечце тых, хто яшчэ жывы, а затым ужо насіцеся па цэнтральных вуліцах з танкамі.

**Вадзім ГІГІН, дэкан факультэта філасофіі і сацыяльных навук Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта:**

– 75-я гадавіна Перамогі – гэта, безумоўна, важная дата. Трэба глядзець, як далей будуць развівацца падзеі, бліжэй да 9 Мая карціна стане зразумелай. Урачы, эпідэміёлагі дадуць рэкамендацыі, у адпаведнасці з гэтым трэба дзейнічаць і глядзець, у якой форме мы будзем адзначаць гэтую важнейшую падзею ў нашай гісторыі і якім чынам мы аддадзім даніну подзвігу нашых продкаў.

Традыцыйна заўсёды гэта быў ваенны парад. Зараз сітуацыя незвычайная, але, зыходзячы з таго, як яна будзе развівацца ў красавіку, і трэба прымаць рашэнне.

І пры чым тут толькі парад? Чаму вы не пытаецеся, ці паедуць беларусы масава на могілкі на Радуніцу?

**Радзім ГАРЭЦКІ, акадэмік:**

– Не патрэбны парады, асабліва ў такі складаны час. Хаця хто да гэтага прыслухаецца? У нас жа што беларускі кіраўнік скажа, тое і будзе.

**Міхась БУЛАВАЦКІ, настаўнік, сябра ГА «Таварыства беларускай мовы»:**

– Як мне падаецца, нам наогул такія мерапрыемствы не патрэбны. Ваенныя парады – гэта старая савецкая традыцыя. Калі глядзець на вайну толькі як на нешта гераічнае, то гэта няправільна. Вайна – гэта бяда, помесь гераізму і подласці. А пра подласць, якая мела месца падчас вайны, у нашых дзяржаўных СМІ чамусьці мала пішуць.

Таму, на мой погляд, парад трэба адмяніць, а грошы лепш аддаць на падтрымку тых, хто перажыў вайну. Але нашы ўлады такія, што яны ад парада наўрад ці адмовяцца.

**Уладзімір РАДКЕВІЧ, былы віцэ-прэм’ер Рэспублікі Беларусь:**

– Калі зыходзіць з апошніх заяў беларускага кіраўніка, лічу, што можна праводзіць парад. Я не думаю, што загартаваныя вайскоўцы могуць падвяргацца атацы нейкіх вірусаў.

І яшчэ хачу сказаць, што на ўсім не сэканоміш. Юбілей перамогі – гэта вялікае свята, таму яго абавязкова трэба адзначыць. Не думаю, што на парад пойдуць нейкія вельмі вялікія сродкі.

**Ганна КАНАПАЦКАЯ, экс-дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу:**

– Яшчэ тры гады таму, калі была дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, я выходзіла з прапановай і да Міністэрства абароны, і ў Мінгарвыканкам, з тым каб ваенныя парады наогул не праводзіліся. А сённяшняя сітуацыя з каранавірусам можа быць дадатковай падставай для таго, каб іх не праводзіць.

**Генадзь МАРОЗАЎ, пенсіянер:**

– Мяркую, што сам фармат ваенных парадаў ужо састарэў. Гэтыя мерапрыемствы сталі архаічнымі. Калі ўлада хоча аддаць даніну памяці нашым продкам, якія ваявалі, трэба шукаць нейкія новыя падыходы.

Старое пакаленне гэтыя мерапрыемствы, можа быць, і грэюць, а моладзі «парад танкаў і камбайнаў» не асабліва і цікавы. Ды і не трэба лішні раз рызыкаваць здароўем людзей.

**Віктар АЛАМПІЕЎ, дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання:**

– З аднаго боку, парад спецыфічны, звязаны з вялікай датай – 75-годдзем Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. А з іншага – яго можна было б і адмяніць, бо сёння ў краіне столькі праблем, што ў мяне ўжо не хапае літаратурных слоў. У нас некаторыя працоўныя атрымліваюць у месяц менш, чым бамжы у Еўропе, а ўлады парады ладзяць.

**Апытваў Алесь СІВЫ.**

ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ

# Кадровые финты по-кричевски,

## или Профсоюз в роли приюта для отставных чиновников

*В декабре 2019 года две известные фигуры Кричевского района – председатель райисполкома* ***Дмитрий Бочков*** *и депутат Палаты представителей* ***Татьяна Марочкова*** *– остались не у дел. Последней не достался мандат после очередных парламентских выборов, а первый был освобожден от занимаемой должности без какой-либо формулировки. Местная любознательная публика стала гадать: куда и как быстро пристроят «освобожденных».*

### Путь наверх

53-летняя уроженка г.Горки Могилевской области Т.Марочкова сделала в Кричеве головокружительную карьеру – от воспитателя группы продленного дня СШ №6 до первого заместителя председателя райисполкома. С 2014-го по 2016 год она работала председателем Кричевского райсовета, попутно занимая должность руководителя местной структуры РОО «Фонд мира», а 11 сентября 2016 года стала депутатом Палаты представителей шестого созыва.

Понятно, что Т.Марочкова в свое время «попала в обойму власти» и чья-то невидимая рука вела ее вверх по карьерной лестнице, несмотря на то, что большим авторитетом среди населения Кричевского района она, как я замечал, никогда не пользовалась, а успехи на руководящих постах были скромны. Будучи директором гимназии, Т.Марочкова в 2006 году окончила Академию управления при Президенте и вскоре получила назначение в исполком – управляющим делами.

В 2015 году, по данным наблюдателей, Марочкова негласно курировала кампанию по выборам президента, лично объезжала участки для голосования. А уже через год зарегистрировала инициативную группу в 72 человека для сбора подписей за выдвижение кандидатом в депутаты по Кричевскому избирательному округу №83. По данным окружной избирательной комиссии, за Т.Марочкову в четырех районах было собрано 15.273 подписи, что составляло 23,6 процента от общего числа избирателей, а в Чериковском районе – даже 34,3 процента. Нужно отметить, что далеко не все поверили в эти ошеломляющие цифры. Зато они сразу показали, на кого власть делает ставку.

Эта избирательная кампания стоила Т.Марочковой нервов – претендент в кандидаты коммунист Владимир Ушаков обвинил ее в обмане окружкома. Согласно заявлениям Ушакова, которые он направил в прокуратуру области и в ЦИК, Марочкова на момент подачи заявления о регистрации инициативной группы не являлась членом КПБ, как указала. В заявлениях были приведены доказательства, что Марочкова была принята в КПБ задним числом. Однако председатель ЦИК Лидия Ермошина оставила новоявленную коммунистку в «выборной гонке».

Кандидат в депутаты от Объединенной гражданской партии Татьяна Шамбалова пожаловалась в окружную комиссию, что Марочкова распространяет печатную продукцию с неполными выходными данными, причем православный календарь (напомню, что Марочкова – член КПБ) вообще не имел каких-либо данных. Избирательная комиссия и здесь не нашла нарушений законодательства.

Т.Марочкова предсказуемо стала депутатом Палаты представителей – 75 процентов голосов при явке избирателей в 92 процента. Характерные для Беларуси цифры, не правда ли?

В Палате Татьяна Борисовна вошла в состав Постоянной комиссии по государственному строительству, местному самоуправлению и регламенту, редко появлялась на трибуне, в зале заседаний ее соседом был депутат Игорь Кононэчук, бывший директор «Бабушкиной крынки». В целом избирателям депутатская деятельность Марочковой ничем особенным не запомнилась, в том числе выполнением предвыборной программы. Конечно, местные государственные СМИ прилагали немалые усилия, чтобы создать видимость многочисленных встреч депутата с избирателями, приемов, решений каких-то частных вопросов, участия в заседаниях, конференциях и т.д.

Тем не менее в Кричеве многие полагали, что Т.Марочкова приложит все усилия, чтобы продолжить депутатскую карьеру еще на 4 года. Но когда пришло время, выдвигаться она не стала, прекрасно зная «правила игры». Не стала она жаловаться и на досрочное прекращение депутатских полномочий почти на один год.

### «Не оправдавший надежд»

Карьера 40-летнего Д.Бочкова впечатляет не меньше. В 2002 году молоденький инженер завода резиновых изделий уже работал в отделе экономики райисполкома, а в начале 2017-го был назначен первым заместителем председателя исполкома. Стремительный карьерный рост в Кричеве многие объясняли наличием у Бочкова высокопоставленного покровителя – ведь отсутствие успехов в экономическом развитии района предполагало скорее закат карьеры.

2017 год стал «звездным» в его судьбе – после отставки в сентябре председателя исполкома Василия Сысоева Д.Бочков был назначен председателем Кричевского райисполкома («Народная Воля» в то время подробно писала об инициативе кричевлян, закончившейся смещением Сысоева). При утверждении кандидатуры Бочкова на заседании райсовета в его поддержку выступила упомянутая выше депутат Палаты представителей Т.Марочкова, а также депутаты райсовета Зинаида Скачкова и Алла Змитрович. Они уверяли, что Д.Бочков «*проявляет систематичность в работе, обладает высокой работоспособностью, стремлением к достижению намеченных целей*».

Новоиспеченный председатель исполкома так определил свои первоочередные задачи: «*Обеспечение занятости населения и создание новых рабочих мест, рост благосостояния населения и зарплаты, контроль за уровнем цен, развитие инфраструктуры*».

Кое-какие пожелания при согласовании кандидатуры Д.Бочкова высказал и Александр Лукашенко: «*Надо просто встряхнуться и начинать работать системно, аккуратно. У нас люди толковые, умные, и, если они будут видеть, что хороший руководитель, они всегда поймут и поддержат*».

Нужно сказать, что в Кричеве назначение председателем исполкома Д.Бочкова мало у кого вызвало прилив энтузиазма. Ведь он был человеком из команды Сысоева, который привел район к упадку. Его мало «праздновали» руководители предприятий и организаций, райисполкомовские работники.

Пропагандистская машина в лице местных государственных СМИ пыталась выставить Д.Бочкова грамотным и профессиональным руководителем. Здесь тебе и высокая требовательность, и ценные указания, и новые производства, и инвестиции, и развитие предпринимательства, и привлечение грантов, и форумы, и пилотные проекты. Лишь изредка в этих СМИ проскальзывала информация (и то ее нужно было читать между строк), что в сельхозпредприятиях нет дисциплины, не соблюдаются технологии, падает производство молока и его качество. Независимые СМИ иногда шутили, что Бочков лично занимается вкручиванием лампочек в подъездах после обращений граждан.

Первый звоночек для Бочкова прозвенел в марте 2019 года, когда после инцидента с загаженной коровой свои посты потеряли министр сельского хозяйства Леонид Заяц, вице-премьер Михаил Русый, председатель Могилевского облисполкома Владимир Доманевский и помощник Президента по Могилевской области Геннадий Лавренков. Л.Заяц и М.Русый буквально через несколько дней были направлены навести «железный порядок» на Могилевщине, «которая плетется в хвосте развития всей страны».

Новые руководители области – председатель облисполкома Л.Заяц и помощник М.Русый – включились в работу, активно меняя руководителей районов. Причины отставок и назначения новых руководителей жителям не объяснялись, разве что А.Лукашенко во время согласований говорил на камеру несколько стандартных в таких случаях слов.

31 июля 2019 года в районной газете «Кричевская жизнь» появилась большая статья прокурора района Леонида Палевича, который неожиданно подверг резкой критике исполнительные и распорядительные органы за просчеты в работе, касающейся многих сфер деятельности, в том числе экономики, производственного травматизма, противопожарного состояния населенных пунктов и т.д. В статье особое внимание уделялось системным проблемам сельского хозяйства.

Л.Палевич со своими коллегами из прокуратуры и в дальнейшем стал практиковать выступления в районке по проблемным вопросам. Прокуроры, которые работали в районе раньше, подобного себе не позволяли. «*Непростой у нас прокурор, возможно, имеет определенную поддержку сверху*», – говорили кричевляне. Статьи прокурорских сотрудников стали вторым звоночком для Д.Бочкова. И уже 26 декабря 2019 года он потерял свою высокую должность. Официальных причин отставки Бочкова кричевляне так и не узнали. Говорили, что он «не оправдал надежд». С одной стороны, это правда – район по экономическим показателям не блещет, как и вся Могилевщина, с другой – новый председатель облисполкома имеет право на формирование «своей команды».

*(Окончание на 2-й стр.)*

Народная Воля http://www.nv-online.info
20 САКАВІКА 2020 г.

НУ І НУ!

## Такога не было 17 гадоў…

Яшчэ два-тры месяцы таму ніхто не мог і падумаць, што кошт бараля нафты маркі Brent можа апусціцца ніжэй за 26 долараў. А гэта адбылося пад вечар 18 сакавіка. Такое назіралася толькі 24 верасня 2003 года.

ОФИЦИАЛЬНО

## Почему в обменниках может не хватать долларов...

«В настоящее время в связи с распространением эпидемии коронавируса и принимаемыми мерами по ограничению въезда иностранных граждан международные авиакомпании значительно сократили количество полетов, что существенно осложнило перемещение грузов между странами, – *говорится в официальном сообщении Нацбанка*. – Ввиду этого в данный момент европейские банки и финансовые организации, предоставляющие услуги по продаже наличных долларов США на европейском рынке, испытывают трудности с доставкой валюты из Соединенных Штатов Америки. Это привело к дефициту наличных долларов США в странах региона на фоне увеличения спроса на них, обусловленного высокой волатильностью на мировых финансовых рынках».

*В связи с этим в обменных пунктах и кассах банков может наблюдаться временная нехватка наличных долларов США.*

«При этом отсутствуют ограничения по покупке/продаже долларов США в безналичной форме, – *говорят в Нацбанке*. – Кроме того, в кассах банков в достаточном количестве находится иная иностранная валюта (например, евро).

В складывающихся условиях банковской системой страны будут предприниматься необходимые меры по обеспечению своевременного и качественного предоставления гражданам и субъектам хозяйствования всего комплекса банковских услуг».

**Галина РУТ.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Александр ФЕДУТА

# Из жизни «изделий №2»

Первый этап праймериз по выдвижению единого кандидата – не от демократических сил, а всего лишь от правоцентристской коалиции – показал, что вот-вот наступит полный провал оппозиционных стратегов. Оказалось, что договоренности не стоят ничего (как было и раньше), а народ делится на «правильный» и «неправильный». Павлу Северинцу и Алексею Янукевичу не понравилось участие в голосовании лиц, представляющих, по их мнению, власть, а потому они вышли из самой процедуры праймериз. Де-факто – отказались от общения с избирателями, какими бы они ни были.

Когда-то один мудрый человек сказал мне (дело было на заре моей деятельности в качестве политконсультанта):

– Производство политиков отличается от производства табуреток качеством сырья. Если качественное сырье для табуреток закончилось, его можно привезти. Политиков производят из того сырья, которое находится под рукой.

На самом деле, это касается не только политиков, но и избирателей. Они – такие, какие есть. Их тоже неоткуда завезти для голосования. И среди них вовсе не обязательно сторонники оппозиции. Скажу больше: многие до сих пор являются искренними сторонниками Лукашенко. Отказ от участия в первом этапе праймериз на самом деле – отказ от разговора с ними. А разговаривать нужно со всеми. Даже с «вертикальщиками». Даже если «вертикальщики» придут на собрание, чтобы поддержать не тебя, а твоего оппонента. И даже если их приход спланирован откуда-то «сверху», чуть ли не в Администрации президента. Говорить нужно. Для политика слово – это тоже поступок. И вид вменяемого, грамотно говорящего, отвечающего на вопросы без ужаса в глазах и митингового крика оппозиционера, какой бы ни была его фамилия, очень важен.

И речь идет вовсе не о том, поддержат они вас сейчас или не поддержат. Речь о том, что они должны понимать: альтернатива не просто существует, но и представлена вполне вменяемыми людьми.

Проблема в том, что отказ от участия в праймериз двух кандидатов, один из которых являлся (все еще) очевидным лидером гонки, а второй (насколько можно предположить) претендовал бы на статус начальника его штаба, обнажает главное: никто и не собирался ни с кем разговаривать по существу. Борьба шла не за расширение границ оппозиционного гетто, а за первенство в рамках этого гетто. Как, впрочем, все последние десять лет. Людям предлагалось верить в некоего абстрактного оппозиционера как в пророка истины, хотя самого пророка вполне удовлетворяло число его адептов, а на большее он и не замахивался. Зачем?

Можно было до бесконечности иронизировать по поводу хождения Анатолия Лебедько на проходные заводов, куда его не пускали. Но это было попыткой раздачи партийных листовок, в которых содержалась хотя бы какая-то информация, не доходившая иным способом до рабочих. Его гоняли, штрафовали, но это было. Журналисты (чего греха таить, и я тоже) посмеивались. Но реальной альтернативы этому не было. Не было реальной альтернативы и многочисленным гражданским инициативам, от которых наши оппозиционеры были вынуждены отмежеваться: граждане ждали от оппозиции конкретики, а та продолжала говорить исключительно о выборах. Какие выборы? Ни один из нынешних претендентов на роль единого кандидата рта не раскрыл по поводу пенсионной реформы, которая стукнула как раз по большинству тех, кто голосует. Никто не заговорил о проблемах с оформлением дачных участков и земли под частными домами, доставшихся нынешним хозяевам по наследству от их родителей еще со времен Советского Союза. Рост цен на медикаменты тоже остался вне поля зрения оппозиции. А если об этих темах кто-то и говорил, то на таком «птичьем» языке, что лучше бы уж молчали.

В результате у белорусского оппозиционера создался имидж человека, говорящего ни о чем и в никуда. Оппозиция, как ни печально, стала ненужной белорусам в массе своей. Можно потрясать толстыми папками, в которых нет ни одного живого слова, и называть их предвыборной программой – но это примерно то же самое, что пытаться выдать графоманскую муть за роман: все равно никто не прочитает.

И как только в гетто раскрыли форточку, выяснилось, что мир делится на партийных активистов и «вертикальщиков». Наличие последних процедурой праймериз было не предусмотрено.

Жизнь оказалась не предусмотренной. А потому Северинец может победить только в гетто. И это понятно. Настоящая победа возможна, если ты видишь перед собой не только день выборов, но и ближайшие пять лет политической жизни в стране. Но у нас привыкли выбрасывать «единого» за борт, как использованное «резиновое изделие № 2». Свои же и выбрасывают. Еще бы: они слишком хорошо знают, что его и производили для одноразового использования. С этой точки зрения все равно, кого именно изберут «единым», если через полгода его придется выбросить.

А жизни вне выборов для наших политиков нет – даже если и выборов в стране нет как таковых. Вне электоральных кампаний им остается роль комментаторов. Не более. Сложите реально существующий актив всех партий, и мы получим цифру гораздо меньшую, чем разовый тираж «Народной Воли». Дайте партиям одну полосу в номере газеты – и вы увидите, что им просто не о чем будет писать. Ну разве что давать анонсы встреч с читателями автора бестселлера «Беларусалим». Но этим газетную полосу не заполнишь.

К сожалению.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Юрый ГУБАРЭВІЧ:

# «Цудоўна, што ідэолагі галасуюць за маю праграму!»

*Павел Севярынец спыніў свой удзел у праймерыз. У тым ліку і з-за таго, што кампанія па вылучэнні адзінага кандыдата ніяк не адрэагавала на масавы ўдзел у галасаванні чыноўнікаў, якія аддаюць свае галасы за старшыню руху «За Свабоду» Юрыя Губарэвіча. «Народная Воля» запыталася ў Губарэвіча, як ён можа патлумачыць свой поспех у прадстаўнікоў райвыканкамаў.*

**– Юрась, як вы адрэагавалі на рашэнне Паўла Севярынца сысці з праймерыз?**

– Я не магу каментаваць ягонае рашэнне. Магу толькі коратка сказаць па мінулых падзеях: удзел чыноўнікаў у нашых сходах пачаўся яшчэ з Віцебшчыны, і там большасць галасоў атрымліваў не я. І ў некаторых іншых раёнах, дзе чыноўнікі галасавалі, я ўвогуле меў нуль галасоў. Так што гаварыць пра нейкія тэндэнцыі тут не выпадае. Адзінае, што я магу адзначыць: удзельная вага чыноўнікаў у нашых сходах была мінімальнай, калі і прыходзілі, то 1–2 чалавекі з мясцовых раёнак, можа быць, яшчэ адзін-два выканкамаўскія чыноўнікі.



Чаму яны прыходзяць? Можа, паглядзець на людзей, паглядзець, якая актыўнасць назіраецца ў іх рэгіёне, хто цікавіцца апазіцыяй. Можа быць, каб задаваць каверзныя пытанні, бо такое таксама здараецца. Але я нічога дрэннага ў гэтым не бачу. Да гэтага трэба быць гатовым.

І калі мы заяўляем пра народнае галасаванне, ясная справа, мы не можам абапірацца на ўдзел у праймерыз толькі нашых актывістаў. Павінны ўдзельнічаць усе, у тым ліку і чыноўнікі – яны таксама грамадзяне нашай краіны. І чым болей будзе людзей, якія выступаюць за перамены, тым мацней будзе кампанія.

**– Як вы ставіцеся да таго, што некаторыя кажуць: ага, мабыць, Губарэвіча падтрымлівае ўлада…**

– Мая пазіцыя нязменная. Я лічу, што ў Беларусі павінен быць новы прэзідэнт, новая ўлада, павінна быць зменена недэмакратычная сістэма кіравання, выбудаваная Аляксандрам Лукашэнкам. Павінны быць свабодныя выбары, павінен быць незалежны суд і гэтак далей. Усе гэтыя пункты ёсць у маёй праграме. І калі нехта з ідэолагаў галасуе за маю праграму – гэта проста цудоўна! Значыць, Беларусь будзе мяняцца!

**– Юрась, каранавіруса не баіцеся?**

– Я асабіста не баюся, аднак выступаю за абсалютна рацыянальныя рашэнні. І калі Міністэрства аховы здароўя – адзіны дзяржаўны орган Беларусі, які мае поўную карціну таго, што адбываецца з гэтым захворваннем у краіне, – скажа, што бачыць рэальную пагрозу і небяспеку масавых сходаў, натуральна, мы мусім гэтыя сходы спыніць. Магу сказаць, што такое рашэнне ўжо прынялі: на гэтым тыдні робім апошні сход, бо людзі ўжо запрошаны, а потым уводзім мараторый на паездкі.

**Марына КОКТЫШ.**

АКТУАЛЬНАЯ ТЭМА

# Адменена нават выступленне Імперскага Рускага Балета…

*Наступствы каранавіруса на Гродзеншчыне не прымусілі сябе доўга чакаць. Ужо зараз цярпіць турыстычны бізнес, у рэстаранах і гатэлях цішыня, без працы засталіся міжнародныя перавозчыкі, гандляры на рынках практычна ўжо не ўтойваюць таго, што давядзецца спыняць дзейнасць, пераносяцца альбо адмяняюцца выстаўкі і канцэрты. І гэта ў той час, калі ў Беларусі не ўведзены каранцін з нагоды каранавіруса.*

### «Такога раней ніколі не было...»

Найбольш складанай сітуацыя выглядае ў турыстычных фірмах. Бязвізавы ўезд на 10 дзён больш не прыносіць прыбытку. Польшча і Літва закрылі межы, да іх далучылася Расія, і ў гродзенскіх турфірмах, як правіла, сядзіць па адной дзяўчыне-аператары і адказвае на тэлефонныя званкі.

*«Ніякіх экскурсій не стала,* – заўважае экскурсавод **Ігар Лапеха.** – *Мала таго, што няма замежных турыстаў, дык і групы з Беларусі ў сувязі з каранавірусам не прыязджаюць. Нават школьнікаў з Гродна ў Ліду звазіць немагчыма».*

Крытычная сітуацыя і з выязным турызмам. Адразу ў некалькіх гродзенскіх фірмах аператары паведамілі, што людзі пачалі адмаўляцца ад заказаных пуцёвак.

*«У нас ужо ёсць адмовы не толькі на красавік, а нават на летнія месяцы»,* – сумна заўважыла «Народнай Волі» аператар Ірына Лахотнік ў турфірме «Гарачыя туры».

Даводзіцца вяртаць людзям грошы, а гэта ўжо не так проста, паколькі зроблены аплаты тым, хто павінен аказваць паслугі турыстам.

### «Дзяржава павінна звярнуць на нас увагу»

У офісах турыстычных фірмаў паўсюль чуеш: імкнёмся прымаць нейкія меры, але ўся праблема ў тым, што ад нас саміх мала што залежыць. Сітуацыя, паводле сцвярджэння многіх тураператараў, вельмі складаная, і калі дзяржава не акажа падтрымкі турыстычнай галіне, то наступствы чакаюцца больш чым сур'ёзныя: многім давядзецца развітацца са сваім бізнесам.

Дырэктар фірмы «Дон Кіхот» Святлана Якіменка распавяла «Народнай Волі», што рэспубліканская арганізацыя турагенцтв склала ліст да ўлад Беларусі з просьбай аказаць на гэты перыяд падтрымку турыстычнаму бізнесу краіны.

Спадарыня Святлана кажа, што іх прапановы не носяць нейкага арыгінальнага характару, яны просяць такой падтрымкі, якая аказваецца ўладамі ў суседніх краінах.

З інфармацыйных паведамленняў вядома, што, да прыкладу, у суседніх Польшчы, Грузіі, Латвіі ўрад прыняў канкрэтныя меры па падатковых ільготах і прыпыненні арэндных плацяжоў. Гэтыя меры накіраваны ў першую чаргу на падтрымку турыстычнага сектара.

*«Мы просім, каб для ўратавання нашага бізнесу ўрад «замарозіў» арэндныя стаўкі, увёў магчымасць адтэрміноўкі па аплаце ЖКП, прыпыніў аплату падаткаў на прыбытак, ФСАН, штрафных аплат і пені»,* – заўважае **Якіменка.**

Пакуль дзяржава ніякім чынам не адрэагавала на прапановы турыстычнага бізнесу.

### Маршруткі і аўтобусы сталі

Значная колькасць людзей на Гродзеншчыне працуе ў транспартных фірмах, якія займаюцца перавозкай пасажыраў у Польшчу і Літву. З пачатку тыдня зносін з гэтымі краінамі няма: цягнік з Гродна ў Кракаў адменены, спынены маршруткі і аўтобусы. Цягнік на Маскву пакуль не адмянілі, але ўезд для грамадзян Беларусі з 18 сакавіка ў РФ закрыты.

Я паспрабаваў замовіць білет на маршрутку фірмы «ТАФ», каб дабрацца да Вільнюса, а ў тэлефоне чую:

*«Трансагенцтва «Фаварыт» спыніла рух міжнародных аўтобусных маршрутаў у сувязі з закрыццём межаў Літвы і Польшчы. У выпадку зняцця абмежаванняў на перамяшчэнне праз мяжу рэйсы будуць адноўлены ў поўным аб'ёме. Сачыце за навінамі на сайце».*

У кампаніі «КлассТур», якая штодня адпраўляла ў Беласток 12 маршрутак, дыспетчар сказала, што продаж білетаў спынены на 10 дзён.

Размаўляючы пра страты, дыспетчарка нам распавяла, што перавозчыкі маюць абавязковыя страхоўкі. Страхаванне адной машыны абыходзіцца ў 160 еўра на месяц. І ці патурбуецца дзяржава аб тым, каб дзейнасць страховак была працягнута на той самы тэрмін, пакуль будзе дзейнічаць забарона на замежныя перавозкі пасажыраў, – гэта пытанне пакуль без адказу.

Дарэчы, фірмы перавозчыкаў таксама чакаюць паслаблення ад падатковых службаў, Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва.

### «У гатэль у выхадныя ніхто не заехаў...»

У гатэлях і хостэлах Гродна рэзка зменшылася запаўняльнасць. **Вольга Васільева**, адміністратар гатэля «Славія», які знаходзіцца ў самым цэнтры старога горада, распавяла «Народнай Волі», што прыкладна палова месцаў у іх займалі замежныя турысты з розных краін.

*«У гэтыя выхадныя ніхто ў гатэль не заехаў,* – кажа адміністратарка. – *З пастаяльцаў застаюцца толькі грамадзяне Беларусі, якія прыехалі ў камандзіроўку».*

Прыкладна такая ж сітуацыя і ў іншых гродзенскіх гатэлях.

### З-за адной і той жа прычыны…

Нягледзячы на тое, што ў Беларусі не ўведзены каранцін па каранавірусе, масавыя мерапрыемствы пераносяцца альбо адмяняюцца. Напрыклад, канцэрты, якія ладзіць у горадзе абласная філармонія, пераносяцца на больш позні тэрміны.

Выступленне дзяржаўнага акадэмічнага ансамбля песні і танца Аджарыі «Арсіяні», якое павінна было адбыцца 22 сакавіка, перанесена на 23 ліпеня. А спектаклі Імперскага Рускага Балета «Лебядзінае возера» з 2 красавіка перанеслі на 21 мая.

У сувязі з каранавірусам не даехала ў Гродна з Польшчы і выстаўка жывапісу Сопацкай галерэі, якая традыцыйна апошнія гады адбывалася ў горадзе над Нёманам. Прычына тая ж – каранавірус.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ

# Кадровые финты по-кричевски,

## или Профсоюз в роли приюта для отставных чиновников

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

### Профсоюз как приют для «освобожденных»

Первой трудоустроилась бывший депутат палаты Т.Марочкова. Уже 6 декабря она оказалась на должности заместителя председателя областного объединения профсоюзов, оперативно получив в Могилеве однокомнатную квартиру. «*Почему не взяла отпуск? Знаете, мне тяжело сидеть без дела – это я без лукавства говорю*», – пояснила она журналистам. 13 января на отчетно-выборной конференции делегаты, среди которых не угадывались рабочие и крестьяне, единодушно подтвердили полномочия Т.Марочковой. В преддверии съезда ФПБ в разговоре с журналистом «Могилевских ведомостей» она отметила: «*Думаю, что основополагающими вопросами на предстоящем съезде профсоюзов станут вопросы повышения уровня и качества жизни работников, обеспечения их полной трудовой занятости и достойной заработной платы, социальная защищенность, пенсионная обеспеченность – от их реализации будут зависеть защита и отстаивание интересов наших людей*». Поддержав в свое время пенсионную реформу и пресловутый декрет №3, Татьяна Борисовна показала, что для нее на самом деле значат «интересы трудового народа».

Д.Бочков тоже оказался на профсоюзной должности, «обскакав» Марочкову. В кулуарах съезда ФПБ 29 февраля телевизионщики представили его в должности заместителя председателя Минского областного объединения профсоюзов. А вот что он сказал в интервью газете «Беларусь сегодня»: «*Профсоюзы всегда выступали гарантом и защитником прав работников по всем направлениям. Поэтому президент абсолютно прав, призывая частный сектор активнее создавать профсоюзные ячейки. Мы должны быть вместе и двигаться в одном направлении… Нынешний съезд ФПБ – еще одно подтверждение той значимой роли, которую сегодня играют профсоюзы. Главное, что они объединяют наше общество во имя повышения благосостояния каждого человека и в целом развития страны…*».

Как Д.Бочков «повышал благосостояние каждого человека», работая председателем исполкома, упоминалось выше.

**Газета «Вольны горад» в №18 за 31 декабря 2017 г. писала о Д.Бочкове:**

*«Первые сто дней работы Д.Бочкова на своем посту показали, что он не дотягивает до уровня руководителя района, хотя находился на солидных должностях много лет. Для окружающих его руководителей он «мальчишка, не знающий жизни». Вырасти из «коротких штанишек» у него не будет времени. По нашему прогнозу, его «съедят» при первой возможности, использовав как «мальчика для битья». Д.Бочков – фигура временная. Он сам шагнул «в полымя» и этим оказался ценен для политических игроков «высокого полета»... Бочкову не позавидуешь. Впрочем, можно позавидовать его кошельку – куда бы ни плыл город под его руководством, в него регулярно попадает зарплата, о которой большинству можно и не мечтать».*

### Послесловие

Я привел весьма характерный пример кадровой политики в Беларуси. Чиновники, завалившие дело либо стоящие на пути других, но при этом сохраняющие лояльность Системе и подчиняющиеся установленным «правилам игры», не останутся без куска хлеба. Профсоюз, возглавляемый небезызвестным Ордой, – не авангард защиты прав трудящихся, как это говорится на публику, а послушная структура Системы власти. В руководство профсоюза удобно «сослать» некоторых чиновников, чтобы сохранить их лояльность в дальнейшем. ФПБ, ОО «Белая Русь», БРСМ, Фонд мира, Союз женщин, организации ветеранов – эти структуры являются, кроме всего прочего, приводными ремнями Системы, которая все больше и больше вызывает нареканий со стороны народа.

**Сергей НЕРОВНЫЙ.**

*г.Кричев.*

